**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№25(637)**
**21 чэрвеня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## За год кошт праезду ў пасажырскім транспарце павялічыўся ад 0,4 да 170%

У студзені-маі 2012 года ў параўнанні са студзенем – маем 2011 года кошт праезду пасажыраў чыгуначным транспартам у міжнародных зносінах узрос у 2,7 раза (170%), паведамілі БелаПАН у прэс-службе Белстата.

У прыгарадных чыгуначных зносінах павелічэнне тарыфаў склала 7,8%, у рэспубліканскіх зносінах – 0,4%.

Кошт праезду аўтамабілем-таксі павялічыўся ў 2,3 раза, паветраным транспартам і аўтобусам міжгародніх зносінаў – у 2,1 раза, аўтобусам прыгарадных зносінаў – у 2 разы, гарадскім транспартам – у 1,8 раза.

У маі ў параўнанні з красавіком 2012 года кошт праезду пасажыраў у таксі і ў цягніках міжнародных зносінаў павялічыўся на 3,7%, у аўтобусах міжгародніх зносінаў — на 0,2%, паветраным транспартам – знізіўся на 0,5%.

Паводле звестак Белстата, у студзені-маі 2012 года ўсімі відамі транспарту (апрача трамвайнага, тралейбуснага і метрапалітэна) перавезена 659 млн. чалавек, што на 4,4% больш, чым у студзені—маі 2011 года. Перавозкі пасажыраў чыгуначным транспартам павялічыліся на 17,3%, паветраным транспартам — на 14,9%, аўтобусамі — на 3,7%.

Перавозкі пасажыраў транспартам індывідуальных прадпрымальнікаў у рэгулярных аўтобусных зносінах у студзені-маі 2012 года склалі 2,3% аб'ёму перавозак пасажыраў, выкананых аўтобусамі, пасажыраабарот – 2%.

*Марына Носава, БелаПАН.*



## Каля касцёла ў Глыбокім знайшлі звон, адліты ў 1882 годзе

**Каля касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім працоўныя знайшлі ў зямлі звон, датаваны 1882 годам.**

На звон натыкнуўся працоўны з Верхнядзвінску Генадзь Кузняцоў, які 11 чэрвеня рабіў свідравіну для ўсталёўкі электрычнага слупа побач з касцёлам. Гэта было за касцельнай агароджай, некалькі метраў ад плябаніі.

Па фотаздымках бачна, што звон добра захаваўся. На ім чытаецца надпіс: "Lał A. Zwoliński w Warszawie. 1882 R" - «Адліваў А. Звалінскі ў Варшаве. 1882 год».

Верагодна, звон быў схаваны ў зямлі падчас нямецкай або савецкай акупацыі.

*Крыніца: Паводле Catholic.by*

## У студзені-красавіку 2012 года рэальныя даходы насельніцтва знізіліся на 0,1%

Рэальныя наяўныя грашовыя даходы (грашовыя даходы за вылічэннем падаткаў, збораў і ўзносаў, скарэктаваныя на індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) за студзень—красавік 2012 года знізіліся на 0,1% у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам, паведамляе прэс-служба Белстата.

Грашовыя даходы ў разліку на душу насельніцтва склалі 2 млн. 209 тыс. рублёў, перавысіўшы мінімальны спажывецкіх бюджэт у 1,9 раза, бюджэт пражытачнага мінімуму — у 3 разы. Агульны аб'ём грашовых даходаў насельніцтва склаў 83,6 трлн. рублёў. У агульным аб'ёме грашовых даходаў насельніцтва аплата працы займае 65,8%, даходы ад прадпрымальніцкай і іншай дзейнасці, што прыносіць даход, — 10,4%, трансферты насельніцтву (пенсіі, стыпендыі, дапамогі і г.д.) — 19,5%, даходы ад уласнасці і іншыя даходы — 4,3%.

*Марына Носава, БелаПАН*



# Дзень сям'і ў Лучаі – 30.06.2012



Парафія св. Юды Тадэвуша, апостала ў Лучаі (Віцебская дыяцэзія, Пастаўскі дэканат) запрашае сужонкаў і таксама кожнага жадаючага прыехаць на свята сям'і, якое будзе праводзіцца 30 чэрвеня г.г., пачатак а 16:00. На гэтую сустрэчу асабліва запрашаем сужонкаў, якія ў гэтым годзе адзначаюць свой юбілей сужэнскага жыцця ці нейкую круглую гадавіну свайго шлюбу. На наша свята запрошаныя святары, якія займаюцца душпастырствам сем'яў, спецыялісты і дарадчыкі сямейнага жыцця, а таксама прадстаўнікі супольнасці «Сужэнскія сустрэчы». Будзе магчымасць падзяліцца сваім досведам. Пасля літургіі запланаваны канцэрт вядомага беларускага артыста. Юбіляраў просім паведаміць загаддзя аб сваім удзеле.

*Кс. Мікалай Лінскі.*

Пастаўскі раён

# Увекавечылі спадчыну продкаў

■ Кастусь Александровіч

**Ужо два дзесяцігоддзі неад'емнай часткай культурнага жыцця Беларусі стаў адзін са старэйшых міжнародных музычных фестываляў "Звіняць цымбалы і гармонік" у Паставах.**

І сёлета на ім панавала атмасфера шчырай радасці, творчасці і сяброўства. Жыхарам Пастаўшчыны ёсць чым ганарыцца, найперш, багацейшай спадчынай рода Тызенгаўзаў, якая захавалася да нашых дзён. А на другі дзень фестываля яна атрымала прадаўжэнне: выява графа Антонія Тызенгаўза з'явілася на будынку Пастаўскай дзіцячай школы мастацтваў, якой было прысвоена імя гэтага мецэната і дзеяча нацыянальнага адраджэння, заснавальніка ў свой час аркестра, балетнай трупы і карціннай галерэі з музеем птушак. Яшчэ перад вайной у тагачаснай Польшчы, а потым на прасторах СССР быў вядомы вясковы Груздаўскі цымбальны аркестр. У райцэнтры некалькі гадоў назад вырашылі паставіць першы ў краіне помнік народным музыкам ля школы мастацтваў і падчас фестывалю сёлета скульптурную кампазіцыю з камянёў урачыста адкрылі. Чарговае XV прадстаўнічае свята музыкі народнай сабрала каля тысячы выканаўцаў з усіх рэгіёнаў Беларусі і яшчэ 7 краін свету. Яго асабліва ўпрыгожылі ўнікальны канцэрт "Званы над Мядзелкай" і выступленне Літоўскага дзяржаўнага ансамбля песні, музыкі і танца "Lietuva", дапоўніў фестываль прадстаўнічы II Міжнародны інвестыцыйны форум.

Верхнядзвінскі раён

# Курэнню – бой!

■ Станіслаў Раманчук

**Адзін з самых аддаленых малых гарадоў на поўначы краіны Верхнядзвінск (у мінулым Дрыса) мае багатую гісторыю з 1363 года заснавання і свой непаўторны каларыт.**

Па гушчыні рачной сеткі гэты раён першы ў Беларусі, а сам райцэнтр размешчаны на берагах адразу двух буйных рэк Заходняй Дзвіны і Дрысы, якія тут злучаюцца паміж сабой. Апошнім часам гэта буйное мястэчка вельмі папрыгажэла, з'яўляецца адным з самых зялёных, прыгожых і дагледжаных у Віцебскай вобласці. Сёлета на ўездзе ў горад адкрыліся дзве дзіцячыя пляцоўкі "Лясная казка" побач з сапраўдным заапаркам, аб якім папклапаціліся работнікі мясцовага лясгаса. Гэта месца ў горадзе стала самым папулярным, а цяпер і адной з зон, свабодных ад курэння. Такое рашэнне прыняло мясцовае кіраўніцтва і ўвяло поўнасцю забарону на курэнне ва ўстановах аховы здароўя, культуры, адукацыі і спорту. Нельга з цыгарэтай цяпер з'явіцца і ў гандлёвых кропках, на ўсіх аб'ектах бытавога абслугоўвання і зацягнуцца дымком у кафе і рэстаранах. Большасць мясцовых жыхароў з задавальненнем сустрэлі навіну, што курыльшчыкі не будуць шкодзіць здароўю іншых і ў памяшканні самога райвыканкама, іншых прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, у пад'ездах жылых дамоў, нават у прыбіральнях. Для курцоў адвялі для іх згубнай звычкі спецыяльныя месцы. Таксама нельга курыць у гарадскім парку, на цэнтральнай плошчы і на перонах пасадкі-высадкі пасажыраў чыгуначнага і аўтобуснага вакзалаў, за чым спецыяльна сочаць адпаведныя службы.

Полацкі раён

# Хоць ты спі ў аўто

■ Чэслаў Якубовіч

**У новым тысягоддзі дабрабыт беларусаў да леташняга абвалу прыкметна вырас і толькі ў адным стотысячным горадзе Наваполацку цяпер зарэгістравана амаль 30 тысяч легкавых аўтамабіляў.**

Аднак сёлета іх уладальнікі перасталі спаць спакойна, паколькі на нафтаград навалілася сапраўдная лавіна крадзяжоў легкавушак, прыпаркаваных у дварах жылых мікрараёнаў. Падобныя паведамленні аб порчы іншамарак паступаюць у гараддзел міліцыі практычна штодзень і толькі ў красавіку тут распачалі 16 крымінальных спраў пасля заяў пацярпелых. Пры гэтым у горадзе ёсць 12 ахоўваемых аўтастаянак, але яны могуць прыняць там толькі дзясятую частку машын аўтапарку навапалачан. Каб месяц спаць спакойна, аўтааматарам трэба аддаць 150 тысяч рублёў, за суткі захоўвання чатырохкалёснага сябра заплаціць каля 10 тысяч. На практыцы людзі эканомяць на гэтым, на стаянкі прыганяецца ў сярэднім да 2 тысяч іншамарак штодзень. А вось для большасці ўладальнікаў машын наступілі цяжкія часы, бо тут з'явілася, напэўна, свая дзікая банда аўтамабільных зламыснікаў. Злодзеі дзейнічаюць па прымітыўнай схеме: позна ноччу пад покрывам цемры ў слаба асветленых завулках яны разбіваюць аконнае шкло і забіраюць з салона найбольш каштоўныя рэчы, найчасцей аўтамагнітолы, аўтанавігатары, акамулятары. Адно з аўто, не абсталяваных сігналізацыяй, пакінулі зусім без калёс. Выйсці на след банды пакуль не ўдалося, і міліцыя стала раіць людзям арганізоўваць начныя дзяжурствы па ахове іх маёмасці на калёсах.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

# Лічба нумара

**230** – па стольких спецыяльнасцях, як паведаміла Міністэрства адукацыі, увядуць у Беларусі скарочаны тэрмін навучання 4 - 4,5 гады з будучага 2013/2014 навучальнага года. Праўда, ужо і сёлета з 1-га верасня на шэраг асобных спецыяльнасцей такі пераход, што пацверджана на сайце гэтага міністэрства, адбудзецца на дыферэнцыяваныя тэрміны атрымання вышэйшай адукацыі 1-й ступені. У ліку тых, каму пашчасціла і хто ўжо праз 4 гады атрымае дыпломы, будуць маладыя людзі, хто выбраў сабе будучыя спецыялізацыі "дзяржаўнае кіраванне і права", "дзяржаўнае кіраванне і эканоміка" і "кіраванне інфармацыйнымі рэсурсамі".

Гэтай навіне, безумоўна, могуць парадавацца многія бацькі з дзецьмі, бо атрыманне адукацыі ў нашай краіне становіцца справай затратнай. Цяпер фактычна з кожных 10 студэнтаў сем вучацца на платнай форме навучання, бюджэтных месцаў штогод становіцца меней. А яшчэ абавязкова трэба многім студэнтам аплочваць і здымныя кватэры, паколькі марудна вырашаецца праблема павелічэння колькасці студэнцкіх інтэрнатаў. Іншая справа, што скарачэнне тэрмінаў падрыхтоўкі кваліфікаваных спецыялістаў можа адбіцца на іх прафесійным майстэрстве, але рабіць высновы будзем пазней.

Пакуль жа вядома, што праз год стануць рыхтаваць за 4 гады ( на год меней, чым цяпер) журналістаў, юрыстаў, эканамістаў, псіхолагаў, мытнікаў, афіцэраў для пагранічных войскаў, ракетных і артылерыйскіх часцей і для іншых прафесій гуманітарнага профілю. Праўда, такі скарочаны тэрмін прадугледжаны і для шэрагу тэхнічных спецыяльнасцей. А вось большасць інжынераў, спецыялістаў для АПК, іншых галін народнай гаспадаркі, фундаментальных навук будуць рыхтаваць на працягу 4,5 гадоў. Аналагічная сістэма навучання ўжо дзейнічае ў суседняй Расіі і цяпер мы да яе далучаемся, бо расійскі вопыт капіруем і па іншых накірунках, узяць бы, да прыкладу, стварэнне і ў нас Следчага камітэта.

У далейшым, у адпаведнасці з міжнародным вопытам, жадаючыя могуць паступаць у магістратуру з тэрмінам навучання яшчэ 2 гады, дзе прадугледжана большая арыентацыя на практыку. Зараз у беларускіх універсітэтах і акадэміях пачалі распрацоўваць новыя навучальныя планы і іншыя метадычныя распрацоўкі для правядзення чарговай навучальнай рэформы. Тым часам у Беларусі стартавала новая ўступная кампанія па паступленні ў ВНУ і тэхнікумы. На цэнтралізаванае тэсціраванне зарэгістравалася каля 140 тысяч маладых беларусаў, у тым ліку толькі ў Віцебскай вобласці – 41 тысяча 40 чалавек.

З-за дэмаграфічнай сітуацыі каторы год менее колькасць выпускнікоў школ, і ў нас на Віцебшчыне стала меней іх амаль на 2400 абітурыентаў, якія будуць з 13 па 27 чэрвеня здаваць тэсты. Па краіне ў аўдыторыі прыдуць на ЦТ меней на 8,6 тысяч юнакоў і дзяўчат, але гэта не азначае, што стаць студэнтам стала прасцей. Каб моладзь не гадала правільныя адказы, правялі змену спецыфікацыі тэстаў гэтага года. Па многіх прадметах была павялічана колькасць заданняў з выбарам правільных адказаў з кола прапанаваных варыянтаў.

Як заўсёды, паўсюдна стварылі камісіі па кантролі за ходам падрыхтоўкі і правядзення цэнтралізаванага тэсціравання, куды ўключылі больш 200 супрацоўнікаў Дзяржкантролю з шырокімі паўнамоцтвамі. Гэта робіцца для выключэння фактаў карупцыі. Сёлета для правядзення ўступных экзаменаў па творчых спецыяльнасцях ледзь не ўвялі абавязковы відэа і гуказапіс, каб не ўзнікалі спрэчныя пытанні пры здачы акцёрскага майстэрства, вакалу і танца. Гэты дакумент не прайшоў юрыдычную экспертызу і ён запрацуе пазней, калі і на артыстаў стануць вучыцца меней часу, чым цяпер.

На працягу двух тыдняў на душы ў многіх абітурыентаў і іх родных будзе трывожна, бо гэта складаны экзамен для ўсіх. Нават у глыбінцы цяпер школьнікі наймаюць рэпэтытараў, наведваюць дадатковыя заняткі, розныя падрыхтоўчыя курсы. Таксама ў нашай краіне набірае папулярнасць і завочная форма навучання ў ВНУ разам з новай дыстанцыйнай. Але любы конкурс ёсць выпрабаванне, таму хацелася б, каб пашчасціла самым таленавітым і адораным абітурыентам, з якіх потым выйдуць са сцэнаў ВНУ добра падрыхтаваныя спецыялісты.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 21.06.12 | | | | Пятніца 22.06.12 | | | | Субота 23.06.12 | | | | Нядзеля 24.06.12 | | | | Пнд.25.06.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +17 | +19 | +17 | +14 | +15 | +16 | +17 | +14 | +15 | +19 | +19 | +13 | +17 | +20 | +18 | +11 | +18 | +22 |
| Ціск | 749 | 749 | 749 | 748 | 747 | 745 | 744 | 743 | 743 | 745 | 747 | 748 | 748 | 749 | 748 | 748 | 747 | 747 | 746 |
| Вільготнасць | 87 | 72 | 58 | 75 | 91 | 94 | 88 | 86 | 99 | 92 | 73 | 77 | 95 | 83 | 58 | 68 | 96 | 73 | 49 |
| Вецер м/сек | 1 | 1 | 3 | 3 | 4 | 5 | 6 | 6 | 7 | 5 | 4 | 1 | 1 | 4 | 4 | 1 | 1 | 1 | 3 |

## Дзень за днём

**Нацыянальны банк Беларусі запэўніў насельніцтва, што да канца года курс долара не апусціцца да прагнознай адзнакі 9150 рублёў. З будучага года большасць беларускіх студэнтаў стануць атрымоўваць вышэйшую адукацыю за 4 - 4,5 гады па 230 спецыяльнасцях. Амаль на 9 тысяч чалавек скарацілася колькасць удзельнікаў цэнтралізаванага тэсціравання, аднак конкурс у айчынных ВНУ будзе, як заўсёды, вялікім. МЗС Беларусі спрасціла і аднačасова ўскладніла выдачу ўязных віз для замежных грамадзян. У гадавіну леташняй акцыі пратэсту "Стоп-бензін" у краіне тэрці раз сёлета павялічыліся цэны на паліва. На біржы быў зарэгістраваны рэкордны продаж акцый Мінскага завода пеністых вінаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іспанія**. Услед за Грэцыяй стала рэзка пагаршацца сітуацыя ў краіне: аб'ёмы рознічных продаж знізіліся на 9,8 %, расце беспрацоўе, узніклі праблемы і ў банкаўскага сектара.

**Пакістан.** Па ўказанні прэзідэнта ЗША Б. Абамы раніцай у выніку моцнага авіяўдару беспілотнага самалёта быў забіты другі лідар тэрарыстаў "Аль-Каіды" Абу Ях'я Лібі.

**Францыя.** Новы ўрад сацыялістаў, як і абяцаў да выбараў, знізіў узрост для выхаду часткі французаў на пенсію з 62 да 60 гадоў, для тых, хто пачаў працаваць з 18-гадовага ўзросту.

**Бельгія.** Вярхоўны прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы К. Эштан пацвердзіла, што да эканамічных і візавых санкцый Еўрасаюза да РБ далучыліся яшчэ 7 краін, не членаў ЕС.

**Карэя.** Кампанія Samsung выпусціла навінку - тэлевізары класа Смарт-ТВ2012, якімі можна кіраваць без пульта, адна з серый такіх апаратаў будучага з'явілася і ў Беларусі.

**Лівія.** Суд прызнаў траіх беларусаў ваеннымі наёмнікамі рэжыма Кадафі і прызначыў па 10 гадоў турмы, такое ж пакаранне вынеслі 19 украінцам і двум грамадзянам Расіі.

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ заявіла, што для яе краіны важны дыялог з незалежнай Беларуссю, але яна не будзе мірыцца з парушэннямі правоў чалавека ў РБ.

**Сірыя.** Краіна ўшчыльную наблізілася да грамадзянскай вайны, саудаўскі рэлігійны дзеяч Алі аль-Рабіеі паабяцаў 450 тысяч $ таму, хто зможа забіць прэзідэнта Башара Асада.

**Германія.** Кіраўнік ведамства федэральнага канцлера ФРГ Рональд Пофала заявіў, што ЕС ніколі не адмовіцца адсвайго патрабавання вызваліць у Беларусі ўсіх палітзняволеных.

**Галандыя.** Міжнародны суд ААН у Гаагe ўпершыню пакараў пры жыцці экс-прэзідэнта дзяржавы Ліберыі Чарльза Тэйлара 50 гадамі турмы за страшныя ваенныя злачынствы.

**Літва.** Экс-прэзідэнт Валдас Адамкус паспяхова прайшоў у ЗША 4-тыднёвы новы курс лячэння раку ныркі найсучасным метадам замарожвання і стаў адчуваць сябе выдатна.

**Польшча.** 45-гадовага ўраджэнца Познані Філіпа Качмарэка выбралі новым главой дэлегацыі Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю, ён зменіў на пасадзе суайчынніка.

**Індыя.** Паніку ў краіне выклікалі невядомыя вучоным павукі гіганцкага росту, якія сталі нападаць на людзей у джунглях, травяністых далінах, некалькі чалавек памерла ад укусаў.

**Кітай.** Вучоныя аб'явілі на падставе раскопак і вымярэнняў, што Вялікая кітайская сцяна аказалася ў 2,5 разы даўжэйшай, чым лічылася раней, і дасягае 21,196 тысяч кіламетраў.

**Расія.** У Маскве развіталіся з выдатным савецкім хакеістам Уладзімірам Крутавым, які памёр ад унутранага крывацёку ва ўзросце 52 гады, быў двойчы алімпійскім чэмпіёнам.

# Стаўка рэфінансавання 20 чэрвеня будзе зніжаная з 34 да 32% гадавых



■ **Аляксей Арэшка, БелаПАН**

**Стаўка рэфінансавання Нацыянальнага банка Беларусі 20 чэрвеня будзе зніжаная з 34 да 32% гадавых. Адпаведнае рашэнне прынятае праўленнем галоўнага банка краіны.**

Гэта пятае з пачатку 2012 года паніжэнне стаўкі рэфінансавання.

Як паведамляе ўпраўленне інфармацыі Нацбанка, аднačасова зніжаецца працэнтная стаўка па пастаянна даступных аперацыях падтрымкі ліквіднасці (крэдыт авернайт, СВОП авернайт) і двухбаковых аперацыях (ламбардны крэдыт, здзелкі СВОП) з 55 да 50% гадавых.

«Фактычная дынаміка большасці макраэканамічных індыкатараў і іх ацэнка на сярэднетэрміновы перыяд пацвярджаюць магчымасць зніжэння намінальнага ўзроўню працэнтных ставак у эканоміцы без узмацнення рызыкаў для збалансаванага развіцця краіны», — гаворыцца ў паведамленні Нацбанка.

Зазначаецца, што ўзровень інфляцыі ў цэлым адпавядае прагнозным параметрам на 2012 год. Спажывецкія цэны на тавары і паслугі ў маі 2012 года ў параўнанні са снежнем 2011 года павялічыліся на 8,5%, пры гэтым базавы індэкс спажывецкіх цэн склаўся на больш нізкім узроўні — 108%.

«Стан і перспектывы знешняга гандлю ацэньваюцца як спрыяльныя. Захаванне станоўчага знешнегандлёвага сальда аказвае пазітыўнае ўздзеянне на дынаміку абменнага курсу беларускага рубля, нягледзячы на кароткатэрміновыя ваганні попыту і прапановы на ўнутраным валютным рынку. Разам з тым захоўваюцца дэвальвацыйныя і інфляцыйныя чаканні пры агульнай тэндэнцыі іх зніжэння. Гэты фактар указвае на дачаснасць значнага змякчэння грашова-крэдытнай палітыкі», — зазначаюць у Нацбанку.

«Разам з тым зніжэнне стаўкі рэфінансавання на 2 працэнтныя пункты ва ўмовах запавольвання інфляцыі дазваляе пакінуць рэальныя значэнні працэнтных ставак на крэдытна-дэпазітным рынку на ранейшым узроўні. Тым самым захоўваецца наяўная ступень жорсткасці працэнтнай палітыкі, якая забяспечвае фарміраванне ўмоў, неабходных для падтрымання ў краіне макраэканамічнай і фінансавай стабільнасці», — гаворыцца ў паведамленні.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Калі беларускі МАЗ не аб'яднаецца з КамАЗам, як заявіў расійскі пасол у Беларусі Аляксандр Сурыкаў, то кітайскія вытворцы аўтамабіляў па чарзе нас раздавяць.

**Астравец.** На пляцоўцы будучай АЭС сталі працаваць болей 20 новых экскаватараў і 50 самазвалаў, да канца года будзе выканана будаўніча-мантажных работ на 40 мільёнаў долараў.

**Мінск.** Прадстаячыя парламенцкія выбары ў Беларусі, як запэўніў А. Лукашэнка, будуць праводзіцца восенню для сябе, для нашай дзяржавы і не будуць ні пад каго падладжвацца.

**Магілёў.** Сыравінная база для першага малочнага холдынга ў Беларусі на базе ААТ "Бабуліна крынка" стануць 17 з 21 раёнаў вобласці, ён будзе створаны да канца года.

**Карма.** Адразу 10 жыхароў вёскі Стараград самага беднага раёна краіны напісалі адкрытае пісьмо А. Лукашэнку з просьбай вярнуць танныя хлеб, малако, а не па 5 тысяч.

**Брэст.** На мясцовым дывановым камбінаце рабочыя не маюць працы трэці месяц з красавіка, іх сталі вазіць на збор камянёў у калгасах, на пераборку металалому.

**Глуск.** На тэрыторыі раёна на граніцы з Гомельшчынай знайшлі геолагі "Беларуснафты" залежы лёгкай нафты, яе пачатковыя запасы ацэньваюцца ў аб'ёме 110 тысяч тон.

**Жлобін.** Прадстаўнікі італьянскай кампаніі Pirelli, 5-й у свеце па вытворчасці шын наведалі БМЗ з мэтай павялічыць аб'ёмы закупак металу з цяперашніх 250 тысяч тон у месяц.

**Мінск.** Пасольства Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь вымушана было пакінуць займаемы ім яшчэ з савецкіх часоў будынак і часова стала працаваць у сваім консульстве па вуліцы Крапоткіна.

**Баранавічы.** Мясцовае прадпрыемства "Бархім" сур'ёзна падмануў адзін з партнёраў у Казахстане, дама-прайдзісвет зарэгістравала яго таварны знак і патрабуе 10 % ад выручкі.

**Узда.** Буйны пажар раніцай на прыватнай абутковай фабрыцы знішчыў увесь дах, палову цаглянага будынка, 26 швейных машын і гатовай прадукцыі на 12 мільёнаў рублёў.

**Гродна.** Усім актывістам незалежнага Саюза палякаў у Беларусі прысудзілі буйныя штрафы за арганізацыю пікета супраць русіфікацыі СШ №36 з польскай мовай навучання.

**Мінск.** Міністэрства фінансаў РБ пацвердзіла, што толькі адна рэспубліканская "Народная газета" з 74 супрацоўнікамі прынесла летась 658 мільёнаў рублёў страт ад сваёй дзейнасці.

**Мядзель.** Санслужба РБ папярэдзіла, што і сёлета для адпачываючых на нарачанскіх азёрах існуе небяспека заражэння цэркарыёзам (зуд і сып на целе), хоць меней, чым раней.

**Столін.** Пасля начной бойкі дзесяці мясцовых хлопцаў ля вясковага СДК з гасцямі з Бярозаўскага раёна адзін з хлопцаў быў забіты, двое паранены нажом, адзін задзіра павесіўся.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Сянно.** Паблізу райцэнтра 62-гадовы пенсіянер захапіў сям'ю знаёмага з суседняй вёскі, забіў нажом ноччу яго 21-гадовую дачку. Ён патрабаваў сустрэчу з кіраўніцтвам Беларусі.

**Полацк.** Многія жыхары горада перакананыя, што адной з прычын арышту былога мэра Уладзіміра Тачылы сталі яго раней няпростыя ўзаемаадносіны з кіраўніцтвам вобласці.

**Верхнядзвінск.** На старых вытворчых плошчах масласырзавода сумесна з адной вядомай расійскай кампаніяй пачнуць выпуск папулярнага ў Еўропе мяккага сыра мацарэлла.

**Віцебск.** Справу арыштаванага летась за атрыманне хабару былога намесніка кіраўніка вобласці па сацыяльнай сферы Леаніда Кавалёва стаў разглядаць Мінскі гарадскі суд.

**Талачын.** Дырэкцыя кансервнага завода не пагадзілася з прэтэнзіямі эколагаў на 700 мільёнаў рублёў за масавае атручванне рыбы ў рацэ з-за шкодных сцёкаў крухмальнага цэха.

**Полацк.** У карпусах былога іезуіцкага калегіума, цяпер двух факультэтаў мясцовага дзяржуніверсітэта, прайшло выязное пасяджэнне Рэспубліканскага савета рэктараў ВНУ.

**Лепель.** З удзелам старшыні верхняй палаты парламента – Савета Рэспублікі Анатоля Рубінава ў былым ваенным гарадку Бароўка ўрачыста адкрылі будынак сельсавета.

**Гарадок.** Настаўнікі СШ №1 чамусьці перablыталі даты правядзення выпускных экзаменаў і дзеці не падрыхтаваліся да пераказу па беларускай мове, прыйшлі на іншы экзамен.

**Глыбокае.** На тэрыторыі цэнтральнай раённай бальніцы адбылася закладка новага храма-капліцы святога Панцеляймона-лекара, пачаўся збор сродкаў на ўзвядзенне святыні.

**Шуміліна.** Пакінуты без нагляду бацькоў, 3-гадовы хлопчык з Полацка ўтапіўся ў канаве з вадой у вёсцы Дабея, сёлета гэта ўжо 5-ты падобны выпадак гібелі дзяцей на вадаёмах.

**Орша.** Аператыўнікі затрымалі трэнера мясцовай ДЮСШ за выраб порнавідэа з удзелам 16-гадовай падапечнай і за распаўсюджанне затым гэтых матэрыялаў у сетцы Інтэрнет.

**Лёзна.** Сельгаспрадпрыемства "Крынку" упершыню на плошчы 50 гектараў пасеяла грэчку, для яе апылення на поле прывезлі пчаліныя вуллі лепшых пчалаводаў раёна.

**Полацк.** Нецвярозая 71-гадовая пенсіянерка ледзь не загінула днём ад непатушанай цыгарэты, з-за моцнага задымлення прыйшлося эвакуіраваць жыхароў 5-га паверха дома.

**Талачын.** Расійскі спявак Філіп Кіркораў ахвяраваў мясцоваму жаночаму манастыру ў райцэнтры амаль 30 тысяч долараў на набыццё новых сучасных вокнаў для храма.

**Орша.** Пасля капітальнага рамонту ў горадзе адкрылася цэнтральная бібліятэка імя Пушкіна, у ёй зрабілі актаву залу памяці свайго земляка, пісьменніка Янкі Сіпакова.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Каля Сафійскага сабора знайшлі новы падземны ход

■ **Дзмітрый Дзежыц,**
*хімік.info*

**У Полацку мясцовым краязнаўцам — Андрэю і Аляксею Бухавецкім — атрымалася знайсці новы, пакуль яшчэ не даследаваны ўчастак полацкіх падзямелляў.**

Паўразбуранае скляпенне браты ўбачылі пры абыходзе берага ракі Палаты непадалёку ад Сафійскага сабора.

«Дзверы» ў падзямелле з'явіліся дзякуючы апоўзню.

Па словах краязнаўцаў, унікальнасць знаходкі ў тым, што на тэрыторыі Верхняга замка падземны ход выяўлены ўпершыню. Да гэтага геаграфія полацкіх падзямелляў абмяжоўвалася раёнам кадэцкага корпуса і Мікалаеўскага сабора.

«Мы крыху расчысцілі ўваход і спусціліся ўніз, — распавёў Андрэй Бухавецкі. — Ход апынуўся вялікі, у рост чалавека. Вышыня ходу — 1,8 м, шырыня — 1,3 м.

Сцены і скляпенне выкладзеныя з вялікай чырвонай цэглы, як мяркуецца, 18 стагоддзя. Над галавой і на сценах плямы чорнай сажы, напэўна, ад паходняў. У сцены ўбітыя дробныя металічныя мыліцы.

Удалося прайсці каля 80 метраў, потым стала душна. Увесь пройдзены ўчастак сухі, вады і завалаў не выяўлена. Ход ідзе ў бок Сафійскага сабора, дзе калісьці стаяў кляштар базыльянаў».



Полацкія краязнаўцы захоўваюць у таямніцы дакладнае месца размяшчэння ўваходу і плануюць у бліжэйшыя час правесці больш дэталёвае даследаванне падзямелляў з ужываннем спецсродкаў.

■ **Ул. Скрабатун**

# «Ці знаў хто з Вас, браткі, Тараса...»

**Штогод у Гарадку адбываецца раённае свята "Ці знаў хто з Вас, браткі, Тараса…"**

Бадай што кожны з беларусаў ведае гэты неўміручы твор – паэму "Тарас на Парнасе". Ведаюць, бо яна ўваходзіць у школьныя падручнікі па беларускай літаратуры.

Паэма напісана, найбольш верагодна, у 1850-я г. Доўга распаўсюджвалася ў рукапісах, упершыню апублікавана ў газеце «Мінскій листок» (№ 37 за 16.5.1889).

Гісторыкі беларускай літаратуры доўга спрачаліся наконт аўтарства. Выказваліся думкі, што паэма належыць пяру В. Дуніна-Марцінкевіча ці А. Вярыгі-Дарэўскага, але творчая манера гэтых пісьменнікаў далёкая ад манеры аўтара паэмы «Тарас на Парнасе». Меркавалі, што паэму напісаў В. Равінскі, з якім звязваецца і аўтарства паэмы «Энеіда навыварат», або беглы дзекабрыст, які жыў у Клімавіцкім павеце на Магілёўшчыне пад імем Яўхіма Крупенькі. Большасць даследчыкаў аддае перавагу меркаванню этнографа Е. Раманава, што аўтар паэмы — адзін са студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута. Былі падставы думаць, што паэма напісана якім-небудзь пецярбургскім літаратарам-беларусам.



Віктар Дудкевіч



Перспектывы для даследчыкаў адкрыў спіс паэмы з паметай: «К. Вераніцын, 15.4.1855, Гарадок». Канстанцін Вераніцын (1834-1904) вучыўся ў Віцебскай гімназіі, Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі і Горы-Горацкім інстытуце. Магчыма, у напісанні паэмы ўдзельнічаў яго гімназічны таварыш Ялегі Пранціш Вуль.

Паэма адыграла вялікую ролю ў станаўленні беларускай літаратурнай мовы, развіцці беларускай літаратуры; перакладзена на многія мовы свету.

Гэтым годам свята "Ці знаў хто з Вас, браткі, Тараса…" перарасло межы Гарадоцкага раёна, стала абласным. У гэтым свяце бралі чынны ўдзел і супрацоўнікі Глыбоцкага Дома рамёстваў.

На гэтае свята прыязджаюць паэты, чытаюць свае вершы, спяваюць барды, выступаюць калектывы мастацкай самадзейнасці. Супрацоўнікі раённых Дамоў рамёстваў прадстаўляюць на выставу свае творы. Гэта не толькі творы, звязаныя з выявою легендарнага Тараса, але і іншых персанажаў паэмы, а таксама і беларускай прыроды: выцінанкі, маляванкі, ласкутныя вышыўкі, скульптуркі з дрэва і гліны.

Глыбачанка Тамара Высоцкая са сваім гліняным Тарасам заняла другое месца, а Віктар Дудкевіч, які прадствіў Тараса з дрэва, заняў трэцяе месца. Першае месца заваяваў спадар Абрамовіч з Полацка.

# «Ужо позна, тваё жыццё не цудоўнае»

У сетцы інтэрнету распаўсюджваецца прэзентацыя Power Point пад загалоўкам «Das Leben ist wunderschon», «Life is beautiful», «La vida es bella». /«Жыццё цудоўнае»/. Ні ў якім разе не адкрывайце яго і адразу выдаліце! Пры адкрыцці гэтага паведамлення з'яўляецца тэкст «It is too late now your life is no longer beautiful», «Ужо позна, тваё жыццё не цудоўнае», «Ahora es tarde, su vida no es mas bella». Пасля гэтага ўсе дадзеныя з камп'ютара знікаюць, а чалавек, які пасла́ў вам электронны ліст, атрымлівае доступ да ўсіх вашых дадзеных, пароляў, інфармацыі. Гэта найпоўшы вірус, які распаўсюджваецца з вечара суботы 16 чэрвеня. Ніякая антывірусная праграма не можа яго знішчыць. Хакер па імені «Life Owner» запусціў яго з жаданнем знішчыць як мага больш камп'ютараў. Перадайце гэта паведамленне як мага большай колькасці сваіх сяброў і знаёмых і як мага хутчэй.

# У Беларусі за дзесяць гадоў захворванне на рак павялічылася амаль на 35%

**У Беларусі павялічваецца захворванне на рак, але пры гэтым зменшаецца смяротнасць ад яго, паведаміў галоўны пазаштатны анколаг Міністэрства аховы здароўя, дырэктар РНПЦ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя Аляксандрава Алег Суконка на прэсканферэнцыі ў Мінску 13 чэрвеня.**

Паводле яго слоў, за апошнія дзесяць гадоў захворванне (на 100 тыс. насельніцтва) павялічылася ў краіне на 34%. У 2011 годзе на рак захварэла больш як 44 тысячы чалавек. Пры захаванні існых тэмпаў росту «праз 20 гадоў колькасць штогод захварэлых дасягне 78.000 у год, што значна павялічыць нагрузку на сістэму аховы здароўя краіны». На пачатак 2012 года на дыспансерным уліку ў сувязі са злаякаснымі новаўтварэннямі знаходзілася амаль 250.000 чалавек, што склала больш як 2,5% насельніцтва краіны. Пры гэтым дзесяць гадоў таму, у 2001 годзе, на дыспансерным уліку стаяла 155 тысяч чалавек.

Суконка адзначыў, што «ў сувязі з пастаянным праявдзеннем у Рэспубліцы Беларусь супрацьракавых мерапрыемстваў у апошнія гады працягвае павялічвацца разрыў паміж узроўнямі захворвання і смяротнасці». З 2002 года паказчыкі захворвання (на 100 тыс. насельніцтва) ўзраслі на 34,2%, а паказчыкі смяротнасці зніzіліся на 5,6%, што «сведчыць пра несумненны прагрэс у дыягностыцы і лячэнні анкалагічных захворванняў».

Разам з тым на працягу многіх гадоў у структуры ўсіх прычын смерці анкалагічная паталогія займае другое месца пасля хвароб сістэмы кровазвароту. У Беларусі назіраецца тыповая для еўрапейскага кантынента сітуацыя, калі працяглaсць жыцця сярод мужчынскага насельніцтва больш за ўсё скарачаецца з прычыны смяротнасці ад злаякасных новаўтварэнняў лёгкіх, тоўстага кішэчніка, страўніка, сярод жанчын — з-за гінекалагічных пухлін.

У большай меры на поспехі ў зніжэнні смяротнасці ўплывае прафілактыка, стан ранняй дыягностыкі і ўдасканаленне метадаў лячэння анкалагічных хворых, адзначыў Суконка.

Паводле яго слоў, у цэлым росту анкалагічных захворванняў спрыяе рост працяглaсці жыцця і павелічэнне ўплыву фактараў рызыкі захворвання на рак. Суконка падкрэсліў, што частата ўтварэння злаякасных пухлін рэзка павялічваецца з узростам, самыя высокія ўзроставыя паказчыкі адзначаюцца ў мужчын і жанчын, якім больш за 60 гадоў. Тым не менш амаль кожны трэці хворы знаходзіцца ў працаздольным узросце.

Сярод фактараў рызыкі захварэць на рак ён назваў няправільнае харчаванне, курэнне, неспрыяльныя экалагічныя фактары, нелячэнне розных запаленчых захворванняў, нездаровы лад жыцця ў цэлым. Сумарны ўнёсак указаных фактараў рызыкі ў дынаміку павелічэння захворвання складае дзве трэціны. Такім чынам, на працягу апошняга дзесяцігоддзя ўнёсак знешніх і індывідуальных фактараў рызыкі ў большай ступені ўплываў на рост анкалагічнага захворвання, чым старэнне насельніцтва, сказаў Суконка.

*Алена Спасюк, БелаПАН*

# Работнікам лясной аховы плануецца даць паўнамоцтвы караць грамадзян, якія выпальваюць сухую расліннасць

**Работнікам лясной аховы плануецца даць паўнамоцтвы караць грамадзян, якія выпальваюць сухую расліннасць. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення лясной гаспадаркі Міністэрства лясной гаспадаркі Валянцін Шатраўка 13 чэрвеня на прэсканферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях прапануе ўнясенне зменаў у Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях, з тым каб работнікі лясной аховы маглі прыцягваць грамадзян да адказнасці на падставе артыкула «Выпальванне сухой расліннасці». Дагэтуль работнікі лясной аховы не мелі такіх паўнамоцтваў. Між тым выпальванне сухой травы часта прыводзіць да пажараў у лясах, а работнікам лясной аховы іншым разам лягчэй устанавіць вінаватага ў пажары, чым прадстаўнікам органаў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя або МНС.

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар МНС Віталь Навіцкі, з пачатку года зарэгістравана 2 тыс. 181 узгаранне травы і кустоў на агульнай плошчы 1 тыс. 214 га, у асноўным у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях. Для параўнання: летась за такі ж перыяд быў 831 выпадак узгарання травы і кустоў на агульнай плошчы 464 га. Прадстаўнік МНС растлумачыў гэта ўмовамі надвор'я: летась снег сышоў пазней, і пажары пачаліся ў сярэдзіне красавіка — на месяц пазней, чым сёлета. Пры выпальванні сухой травы сёлета загінулі дзевяць чалавек.

Прадстаўнік МНС нагадаў, што выпальванне сухой расліннасці забаронена законам. За гэта прадугледжаны штраф ад 10 да 40 базавых велічыняў.

Экалагічная грамадскасць Беларусі праводзіць кампанію супраць практыкі веснавога выпальвання сухой расліннасці. Экологі падкрэсліваюць, што ў выніку пажараў адбываецца збядненне відавога складу расліннасці, гінуць многія віды жывёл, птушак і насякомых. Пажары прыводзяць да эрозіі глебы і забруджвання паветра. Калі разам з травой спальваецца смецце, у паветра трапляюць стойкія арганічныя забруджвальнікі, якія вельмі таксічныя.

*А. Янушэўская, БелаПАН.*

**Да ўвагі нашых чытачоў.**

Нагадваем для тых, хто можа быць чытае гэты матэрыял ўпершыню (не з пачатку публікацыі), што аповяд ідзе аб той частцы Глыбокага, якое належала Кармэлітам і называлася мястэчка Глыбокае. Па сёньняшняй лакалізацыі – пл. 17 Верасьня (тады пл. Рынак і вул. Вялікая) ды прылеглыя вуліцы: Савецкая (Рынкавая), Леніна да маста (Віленская), Горкага (Полацкая).

За ракой Беразвіцай, там, дзе цяпер Цэнтральны пляц, быў горад Глыбокае.

# Мястэчка Глыбокае

## Гаспадарка мястэчка Глыбокае на пачатку XIX стагодзьдзя



■ **Аляксандр Івашчонак,**
*бакалаўр гісторыі, г.Нэапаль, Італія.*

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625), №14 (626), №15 (627), №16 (628), №17 (629), №19 (631), 20 (632), №21(633), №22 (634), №23 (635), №24 (636) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## II. Гаспадарка жыхароў мястэчка

Мястэчка Глыбокае складалася з 4 вуліц і плошчы: вул. Віленская, вул. Полацкая, вул. Вялікая, вул. Рынкавая і сам Рынак (Рынкавая плошча). Найвялікшай вуліцай была Рынкавая (як стаць тварам да касцёла – правы бок Рынку ад вул. Вялікай альбо сёньняшняя вул. Савецкая), так на ёй былі пабудаваныя 31 хата. На вуліцы Віленскай (сёньня вул. Леніна да маста) было 25 хат, на вуліцы Полацкай (сёньня вул. Горкага) – 22 хаты. Самай малой вуліцай была вуліца Вялікая[1] (правы бок Рынку ад вул. Віленскай аж да касьцёла), на ёй месьціліся 6 дамоў. А сама назва такой маленькай вуліцы была Вялікая, бо займала яна шмат тэрыторыі, так як дамы былі пабудаваныя толькі па аднаму баку, а па другі быў Рынак, таму аптычна вуліцы была вельмі вялікай.

Пад жыхарамі мястэчка, пад іх хатамі і агародамі было каля 400 га, кляштар займаў 63 га, а ўсё мястэчка Глыбокае разам з неўжыванай зямлёй (кустамі, хмызьняком, балотам) – прыблізна 550 га.

**Заўвагі рэдакцыі:**

**[1] Такой вуліцы сёньня няма, яна – ў складзе пляца 17 Верасьня. Калі дакладней, то на былой вул. Вялікай знаходзіцца сёньня «Белаграпрамбанк» і кавярня «Неон».**

**[2] Так было ў сярэднявеччы. Пасля падзелаў РП, на пач. XIX ст. – у Мінскай губэрні.**



**Кляштарная сажалка на мейсцы сёньняшняга кансэрвавага завода. За дамбай – возера Кагальнае. Фота 1930-ых гг.**

## Абавязкі жыхароў мястэчка

Жыхары мястэчка Глыбокае ня мелі шмат абавязкаў перад манахамі-ўладальнікамі. А менавіта жыхары былі абавязаныя выконваць:

1. Глыбоцкія мяшчане прыгону ня служаць.
2. Раз у год адна жанчына з хаты павінна прыйсьці на 4 дні для жніва кляштарнага збожжа.
3. Для біцьця лёду і важэньня яго ў лядоўні ўсе мужчыны павінныя раз на год.
4. Царскі падатак і чынш павінны аддаваць у кляштар.
5. Згодна з царскім указам павінны рабіць зсыпку ў павятовы склад.
6. Тыя, хто ня можа заплаціць царскага падатку, яго вартасьць адпрацоўвае ў кляштарных фабрыках, але толькі на падставе добраахвотнай умовы абодвух бакоў.

## Гаспадарчы стан жыхароў

Для лепшага разуменьня варта апісаць гаспадарчы стан жыхароў мястэчка Глыбокае паводле вуліц. Пачынаючы ад вуліцы Вялікай.

### *Вуліца Вялікая*

Пры вул. Вялікай жыло 7 сем'яў. Усяго разам яны мелі 18 коней, 2 каровы, 3 сьвіньні, 3 гускі і дзьве курыцы. Чаму так мала, таму што з 7 сем'яў пры вул. Вялікай толькі адна была каталіцкай, 6 астатніх былі габрэямі, якія не трымалі аніякай хатняй жывёлы акрамя коней.

### *Вуліца Віленская*

Пры вул. Віленскай жыло 26 сем'яў (з іх 7 сем'яў габрэяў). Усяго разам мелі 10 коней, 1 вала, 13 кароў, 9 цялушак, 21 авечку, 30 сьвіней, 14 гусак, 21 курыцу, 8 вулёў з пчоламі.

### *Вуліца Рынкавая*

Пры вул. Рынкавай жыла 31 сям'я (з іх 2 сям'і габрэяў). Усяго разам мелі 23 кані, 37 кароў, 14 цялушак, 1 казу, 40 авечак, 62 сьвіньні, 32 гускі, 40 кур, 8 вулёў з пчоламі.

### *Вуліца Полацкая*

Пры вул. Полацкай жыло 26 сем'яў (з іх 7 сем'яў габрэяў). Усяго разам мелі 35 коней, 52 каровы, 20 цялушак, 5 коз, 51 авечку, 83 сьвіньні, 46 гусак, 65 курэй, 8 вулляў з пчоламі.

## Падсумаваньне

Робячы падсумаваньне, трэба падкрэсьліць, што мястэчка Глыбокае, Полацкага ваяводзтва[2], разьвівалася дзякуючы манахам-уладальнікам. Менавіта Кармэліты былі фундамантам гаспадарчага разьвіцьця рэгіёну, менавіта дзякуючы ім у Глыбокім з'явіліся ня толькі розныя тыпы млыноў, суконная фабрыка ці цагельня, альбо цырульня, але таксама альбо лепш – перадусім – аптэка, лазарэт, шпіталь, фруктовы сад, парафіяльная школа. Менавіта кляштар прыцягваў, вабіў у Глыбокае падарожнікаў, пілігрымаў ды купцоў, дзякуючы якім працавалі корчмы (заездныя дамы) і рынак. Без Кармэлітаў сёньняшняе Глыбокае не было б Глыбокім, каб не манахі, якія пératварылі мястачковую глухмень часоў Язэпа Корсака у квітнеючую "Венецыю" – мястэчка Глыбокае, сярод азёраў, рэк і салажалак, затопленае садамі і архітэктурай барока.

МЯСТЭЧКА ГЛЫБОКАЕ

горад Глыбокае

вул. Рынкавая

вул. Вялікая

пл. Рынак

вул. Віленская

вул. Полацкая

Копцеўка

воз. Кагальнае

Для падрыхтоўкі гэтай схемы выкарыстаны арыгінальны архіўны план мястэчка Глыбокае за 1857 год. Камп'ютарная апрацоўка Ул. Скрабатуна.

**Лічбамі пазначаныя:**

1. Кляштар Кармэлітаў.
2. Аўстэрыя.
3. Парафіяльны касьцёл.
4. Кармэліцкі сад.
5. Капліца сьв. Эльяша.

# Арандатар, гаспадар ці браканьер

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Глыбоцкі раён багаты азёрамі, частка вадаёмаў перададзена ў арэнду дзяржаўным прадпрыемствам і фермерскім гаспадаркам. Здавалася б, у вадаёма ёсць гаспадар, значыць павінен быць і парадак на вадаёме, уладкавана берагавая лінія, рацыянальна вядзецца вылоўліванне рыбы і зарыбленіе вадаёма, але насамрэч атрымліваецца часам наадварот. Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, з'яўляючыся органам дзяржаўнага кантролю за вядзеннем рыбалоўнай гаспадаркі, увесь час ажыццяўляюць кантроль за арандатарамі вадаёмаў.

Так, за мінулы тыдзень былі правераны два арандатары азёр. 13 чэрвеня 2012 года працаўнікі міжрайінспекцыі правялі кантрольную праверку рыбалоўчай брыгады Докшыцкага ПМС на возеры Сэрвач, дзе выяўлены шэраг сур'ёзных парушэнняў у вядзенні прамысловай лоўлі рыбы. Брыгадзір рыбалоўчай брыгады грамадзянін П. незаконна ажыццявіў вылоўліванне ракаў вузкапалых, лоўля якіх у дадзены перыяд часу забаронена, пры трапленні ў сеткі ракаў, іх неабходна выпускаць, аднак грамадзянін П., гэтага не зрабіў, а ўзяў для асабістых патрэб, зараз яму прыйдзецца адказваць за дапушчанае парушэнне ў судзе. Ён жа пры выманні рыбы з сетак зрабіў недакладны запіс у таварна-транспартную накладную на вывазку рыбы і ў тоневы журнал уліку вылаўленай рыбы, паказаўшы розную вагу вылаўленай рыбы. Разыходжанне вагі ў 11 кг. спрыяла таму, што рыба не была ўлічаная і магла быць скарыстаная ў асабістых мэтах. Брыгадзір прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, а кіраўніку Докшыцкага МПС накіравана прадпісанне пра ўхіленне недахопаў у вядзенні прамысловай лоўлі рыбы.

**Вудамі, спінінгам і донкай усю рыбу не вылавіш, а вось рэгулярна выстаўляныя мясцовым насельніцтвам сеткі «кітайкі» наносяць адчувальную шкоду возеру.**

15 чэрвеня 2012 года працаўнікамі міжрайінспекцыі праверана рыбалоўчая брыгада ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка», якая арандуе раку Паловіца ў в. Капыльшчына Глыбоцкага раёна. Брыгадзір рыбалоўчай брыгады грамадзянін К. наогул вёў тоневы журнал так, што правесці правільны ўлік вылаўленай рыбы практычна немагчыма, больш таго, правёў выманне рыбы з сетак і забраў яе сабе для асабістых патрэб, без ажыццяўлення запісу пра колькасць вылаўленай рыбы ў журнале, г.зн. распарадзіўся рыбай па сваім меркаванні. Складзены адміністрацыйныя пратаколы, вінаваты прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу. Гэта толькі два факты грубых парушэнняў арандатарамі дамоўных абавязанняў.

**За апошнія тры гады на возеры Псуеўскае за браканьерскую лоўлю рыбы сеткамі затрымана 19 мясцовых жыхароў і ніводнага прыезджага, канфіскавана больш 2 км. сетак**

У той жа час пры праверцы рыбалоўчай брыгады Глыбоцкай ПМС на азёрах Малая Пліса, Царкавішча парушэнняў не выяўлена. Уся рыба ўлічана, па відах вага вылаўленай рыбы адпавядае запісам у тоневым журнале, які вядзецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі Правіл. Адпаведна ўловы рыбалоўчых брыгад Глыбоцкага ПМС па 50-80 кг., а ў ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка» 2-5 кг.

Кантроль за арандатарамі рыбалоўных угоддзяў з боку міжрайінспекцыі будзе ўзмацняцца, а вінаватыя панясуць заслужанае пакаранне.

Шматлікія нашы грамадзяне недалёка сышлі ад нядобрасумленных арандатараў, узяць, да прыкладу, возера Псуеўскае, якое з'яўляецца, так бы мовіць, рыбалоўнай «Мекай» раёна. На дадзеным вадаёме заўсёды шмат рыбакоў, возера багатае рыбай і ўмелы рыбак заўсёды будзе з уловам. Мясцовыя жыхары в. Псуя і Абруб вельмі часта жаляцца на прыезджых рыбакоў, якія вылавілі ўсю рыбу. Але вудамі, спінінгам і донкай рыбу не вылавіш, а вось рэгулярна выстаўляныя мясцовым насельніцтвам сеткі «кітайкі» наносяць адчувальную шкоду возеру. Так, 15 чэрвеня каля 22 гадзін, працаўнікамі міжрайінспекцыі на возеры Псуеўскае затрыманы бацька і сын, жыхары в. Псуя, якія пры дапамозе трох сетак незаконна здабывалі рыбу, усяго 33 асобіны розных відаў рыбы, пры затрыманні абодва з браканьераў спрабавалі схавацца, але былі затрыманы, а вынесенае раённым судом пакаранне будзе добрым урокам для іх. За апошнія тры гады на возеры Псуеўскае за браканьерскую лоўлю рыбы сеткамі затрымана 19 мясцовых жыхароў і ніводнага прыезджага, канфіскавана больш 2 км. сетак. Так што статыстыка паказвае, хто займаецца браканьерствам.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя выказвае падзяку ўсім грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў працы.

Пра ўсе факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-2156-2-86-70 - кругласутачна, мабільныя - 897-2302, 890-55-28, 249-45-49, 645-660-78.

# У 2015 годзе ўсе лясгасы Беларусі плануецца абсталяваць сістэмай відэаназірання

**У 2015 годзе ўсе лясгасы Беларусі плануецца абсталяваць сістэмай відэаназірання. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення лясной гаспадаркі Міністэрства лясной гаспадаркі Валянцін Шатраўка 13 чэрвеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, сістэма прызначана найперш для ранняга выяўлення лясных пажараў. Яе ўкараненне дазволіць значна скараціць колькасць работнікаў лясной аховы, што задзейнічаны ў выяўленні пажараў. Калі зараз пажарныя вартаўнікі ў асноўным назіраюць за становішчам з вышак, размешчаных на розных участках лясгаса, то новая сістэма прадугледжвае ўстаноўку замест іх камер, якія будуць перадаваць інфармацыю ў адзіны пункт — лясгас. Кошт новай сістэмы ў цяперашніх цэнах ацэньваецца прыкладна ў 100 млрд. беларускіх рублёў.

Як паведаміў Шатраўка, сёлета новая сістэма будзе адпрацавана ў Стаўбцоўскім лясгасе Мінскай вобласці, дзе будуць устаноўленыя чатыры відэакамеры. Гэтыя работы ацэньваюцца прыкладна ў 1,5 млрд. рублёў. У 2013 годзе сістэму відэаназірання плануецца ўкараніць ва ўсіх лясгасах Мінскай вобласці, а да 2015 года — ва ўсіх 95 лясгасах Беларусі.

Сёлета пачне прымяняцца новая методыка вызначэння пажарнай небяспекі лясоў па ўмовах надвор'я. Яе распрацоўкай займаецца Інстытут лесу Нацыянальнай акадэміі навук. Чакаецца, што з улікам наяўнай практыкі будуць крыху перагледжаны існуючыя класы пажарнай небяспекі, што, у сваю чаргу, прывядзе да зменаў у працы службы лясной аховы, падкрэсліў Шатраўка.

*А. Янушэўская, БелаПАН*

# Тэлевізійная антэна можа стаць прычынай няшчаснага здарэння

**Ішуцін А.Н.**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

**Для забеспячэння захаванасці электрычных сетак напругай да і вышэй 1000 В, стварэння нармальных умоў эксплуатацыі гэтых сетак і прадухілення няшчасных выпадкаў вакол электрычных сетак усталёўваюцца ахоўныя зоны. Паводле патрабаванняў Правіл ўстройства электраўстановак ахоўныя зоны для ліній электраперадач складаюць 110 кв – 20 метраў, 35 кв –15 метраў, 10 кв – 10 метраў, 380-220В – 2 метры. У ахоўных зонах электрычных сетак забараняецца:**

- праводзіць будаўніцтва, капітальны рамонт, рэканструкцыю або знос будынкаў і збудаванняў;
- ажыццяўляць пагрузаразгрузачныя работы, дноўглыбляльныя, землячарпальныя, выбухныя, меліярацыйныя работы, праводзіць пасадку і высечку дрэў і хмызнякоў, размяшчаць палявыя станы, усталёўваць загоны для скаціны, майстраваць драцяныя агароджы,;
- ажыццяўляць здабычу рыбы, іншых водных жывёл;
- здзяйсняць праезд машын і механізмаў, якія маюць агульную вышыню з грузам ці без грузу ад паверхні дарогі больш 4,5 метраў і г.д.

Здавалася б, усе гэтыя пералічаныя пункты прызначаны толькі для прамысловых і сельскагаспадарчых вытворцаў, але часам гэта датычыць і простых грамадзян, як гэта здарылася з грамадзянінам М., які пражываў у гарадскім пасёлку Расоны. Так, 12.06.12 г. грамадзянін М., дэмантуючы тэлевізійную антэну даўжынёй 13 метраў, выкананую з металічнай трубы, выпусціў яе на провад лініі электраперадач 10 кв, які праходзіў паблізу дома, і быў смяротна траўмаваны электрычным токам.

Аналагічны выпадак адбыўся 21.05.06 г. у в. Ларынаўка, Аршанскага раёна з грамадзянінам К. Пры пераездзе на новае месца жыхарства ён вырашыў дэмантаваць тэлевізійную антэну, выпусціў яе з рук. У следстве яго адбылося падзенне стойкі антэны на крайні провад лініі электраперадач і паражэнне грамадзяніна К. электрычным токам.



Каб не было падобных няшчасных выпадкаў, неабходна выконваць элементарныя патрабаванні правіл электрабяспекі і праяўляць уважлівасць і асцярожнасць. Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні па артыкуле 20.3 « Парушэнне правіл аховы электрычных сетак» прадугледжана пакаранне ў выглядзе штрафу да 20 базавых велічынь.




*Галіну Уладзіміраўну Гіцук*

**Сардэчна віншуем з юбілеем!**

Прожито много разных дней,
Дней горьких, радостных, счастливых,
И вот настал твой юбилей –
Один из самых дней красивых.
Пусть эта замечательная дата
В твоей душе оставит добрый след.
Желаем мы всего, чем жизнь богата:
Здоровья, счастья, долгих лет.

*Дачка, зяць, унучка Дзіяна.*

*Марыю Афанасьеўну Васілёнак*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Желаем счастья в этот день,
Тепла от всех, кто будет рядом,
Улыбок светлых на лице
И солнечных лучей в награду.
Неумолимо мчат года,
Их задержать не в нашей власти…
Так пусть же будет так всегда:
Чем больше лет, тем больше счастья.

*Сын Сяргей, нявестка Вера, Дзіяна.*

## МНС інфармуе на 19.06.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 615;
Гібель людзей – 79, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 3345,1 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 26;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 188 050 000 руб.

